# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 100 мк. за радок пятыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Серада 1-га лістапада 1922 г. № 30 (55).

# Беларусы, галасуйце за свой сьпісак № 16!

## За сваіх.

У нядзелю, 5 лістапада, беларускія народныя масы ізноў, як многа год таму назад пойдуць да выбарных урн, **каб галасаваньнем выявіць сваю волю.**

Запраўды, выбар тых ці іншых людзей у Сойм, дзе дэпутаты будуць у працягу пяці лет прамаўляць ад імя нашае Зямлі. гэта і ёсьць выяўленьне волі народу. Выбіраючы **сваіх, беларусаў**, мы пакажам усяму сьвету, **што народ беларускі ёсьць, што ён жыве, жыць хоча і жыць будзе,** ня гледзячы на ўсе зьдзекі і ўціск з боку тых, хто над намі пануе. Наадварот, калі ад Зямлі Беларускай пападуць у Сойм людзі нам чужыя, **калі нашымі галасамі будуць выбраны за дэпутатаў палякі** — хоць-бы найбольш да нас прыхільныя, дык гэта будзе растлумачана ўсяму сьвету, як довад, быццам на „усходніх крэсах“ **беларускага насяленьня зусім няма.**

**І мы нашу волю жыць, волю істнаваць павінны выявіць.** Ня гледзячы на ўсе прасьледаваньні з боку адміністрацыі, ня гледзячы на штодзенныя арышты нашых людзей за беларускую работу, ня гледзячы на незаконныя канфіскацыі зусім легальнае беларускае выбарнае літэратуры, ня гледзячы, ўрэшце, на пагрозы праступных адзінак „распраўай пасьля пятага лістапада“,—мы дружнымі радамі пойдзем да выбарных урн з цьвёрдай сьвядомасьцю, што ратунак нам дадуць толькі нашыя беларускія дэпутаты, выстаўленыя пад **нумэрам шаснаццатым,** што ніводзін беларускі голас не павінен папасьці за чужацкія сьпіскі.

Сорам тым, хто гэтага не зразумее. Пракляцьце ўсім, хто дзеля грошы ці панскае ласкі здрадзяць сьвядома свой народ і свой край, хто сьвядома будзе галасаваць за польскія сьпіскі.

**Дык-жа ўсе, як адзін, за сваіх — беларусаў! Усе, як адзін, за нумэр шаснаццаты!**

## „Вызволенцы“ скінулі маску!

Толькі ў апошні мамэнт перад выбарамі "вызволенцы" скінулі маску, у якой да гэтуль хадзілі.

Яшчэ так нядаўна яны завяралі і ў Сойме, і ў сваіх газэтах, што толькі яны адны спаміж польскіх партыяў стаяць за волю для ўсіх няпольскіх нацыяў у межах Польскага Гаспадарства.

Тады добры быў для іх і беларус, і украінец, і жыд.

Цяпер яны запялі новую песьню. Цяпер яны афіцыяльна прызналіся, што яны — такія-ж ворагі „інародцаў“, такія-ж „жыдаеды“, як і ідэйныя хаўрусьнікі іх— пагромшчык Балаховіч, бандыты—зялёнадубцы і звычайныя жулікі ды зладзеі „актывісты“.

„Вызвалене“ надрукавала надовячы адозву аб тым, за каго **н я т р э б а** галасаваць. У гэтай адозве аб польскіх панскіх і эндэцкіх партыях сказана нешта вельмі туманнае ў трох радкох. Затое на двух страніцах ідзе нягодная брахня і лаянка на № 16—зусім у духу пагромшчыкаў. Чытаючы яе, так і чакаеш, што яна закончыцца клічам: „бей жыдоў, спасай Польшчу!“—„Вызваленцы“ ўрэшце зусім адкрыта далучылі свой голас да згоднага хору ўсіх польскіх партыяў!

На ўсю іх брахню ня будзем адказваць: сьмешна чытаць, як сын абшарніка і сам ўласнік вялізарнае друкарні ў Вільні Хамінскі, і такіж панок Ваяводзкі лгуць, быццам сялянскі сын з вёскі Кабыльле Вялейскага п. Аўсянік, сям'я якога сядзіць на сваім вузкім надзеле, „мае фальварак у Валожынскім павеце“. Лгуць, не чырванеючы, быццам Хамінскі нічога супольнага з зямлёй ня мае, быццам зямлю маюць яго „крэўныя“, якія яго выракліся! Дык-жа гэныя „крэўныя“—ягоны родны бацька, і пан Хамінскі ў Сойме ўжо здалее абараніць сваю спадчыну па бацьку!

Дый ня ў гэтым толькі справа. „Вызвалене“ ведае, што беларускія пaслы могуць папасьці ў Сойм толькі па сьпіску № 16, дзе яны займаюць першыя месцы. На сьпісках „вызваленскіх“ наперадзі стаяць польскія панкі—бышыя агенты „другога аддзелу, і вось іхто маюць правадзіць беларусы сваімі галасамі! А беларусаў у Сойме—зусім ня трэба!

Праўда, ёсьць і „беларускі“ сьпісак, катарага „Вызвалене“ ня якець, ды ён беларускі толькі па імяньню. Гэта— сьпісак № 24, сьпісак „Зялёнадубцаў“, „балахоўцаў“ і "актывістаў", запрадаўшыхся польскім панам. Вось, проці іх „Вызволене“ ніводным словам не выступае. Гэта для яго—ідэйныя таварышы. З гэтымі бандытамі „вызваленцы“ салідарна, быццам змовіўшыся, стараюцца разьбіць сьпісак 16.

Ды дарма, панове! Народ ужо пазнаў вас! Народ ведае, што тыя вялізарныя грошы, якімі вы закідаеце нашу вёску,—ня могуцьісьці з чыстае крыніцы! Апошняя-ж ваша адозва разчыніць вочы і тым, хто дагэтуль яшчэ вам верыў.

Сягоньня вы цкуеце народ на жыдоў. Заўтра будзеце цкаваць Сойм—на беларусаў!

**Н. Н.**

Галасуй за № 16!

# ГАЛАСУЙ за № 16!

Хочаш **зямлі бяз выкупу?**

Хочаш, каб **уся тутэйшая зямля** засталася **тутэйшаму працоўнаму сялянству?**

Хочаш **пазбыцца асаднікаў чужынцаў?**

Хочаш **адбудовы зруйнаваных гаспадарак** на кошт скарбу?

Хочаш, каб **нашы лясы** ішлі на адбудову нашых вёсак, а не заграніцу?

Хочаш **8-гадзіннага дня працы?**

Хочаш праўдзівае **волі і роўных правоў** для ўсіх нацыяў і вер?

Хочаш **школы ў роднай мове?**

Хочаш, каб уся **адміністрацыя была свая**, тутэйшая, каб урадоўцамі былі нашы людзі?

Хочаш **служыць у войску ў сваім родным краю**—дзеля абароны яго?

Хочаш палажыць **канец усім крыўдам і зьдзеку** над нашым народам?

Хочаш **быць гаспадаром на сваей зямлі,** хочаш **аўтаноміі** нашага краю з сваім Соймам у Вільні?

# ГАЛАСУЙ за № 16!

Галасуй за № 16!

# Як галасаваць?

Бадай, ужо ўсе беларусы ведаюць, што яны павінны падаваць свае галасы на выбарах **за сьпісак № 16**, — адзіны сьпісак, па якім праходзяць у Сойм запраўдныя сыны і абаронцы беларускае вёскі, адзіны сьпісак, які праводзіць у дэпутаты ў Вільні *работніка*, а не паноў, якія напрашываюцца ў абаронцы работніцкага клясу.

Цяпер растлумачым, *як* трэба галасаваць, *як* галасаваньне адбываецца.

Галасаваньне будзе адбывацца ў гэту нядзелю, *5 лістапада*, ад 9 гадзіны раніцы да 9 гадз. вечара,—значыцца, *толькі адзін дзень.*

Галасаваць трэба ў *сваей абводавай камісіі.*

Прыйшоўшы ў абводавую камісію, выбаршчык, пасьля праверкі, ці ён упісаны у сьпіскі выбаршчыкаў, *атрымлівае канвэрт*, у каторы, адвярнуўшыся ў бок, *каб ніхто ня мог бачыць*, укладае *картачку з нашым нумэрам шаснаццатым.*

Картачкі загадзя раздаюцца беларускімі выбарнымі камітэтамі (абводавымі, гмінными, павятовымі, акружнымі), і паўнамочнікамі Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту.

Калі-б хто ня здолеў дастаць нашае картачкі з № 16, няхай возьме маленечкі кусочак *белае паперы*, на якой сам упіша цыфу **16**. Папера канешна павінна быць *чыстая, бяз ніякіх другіх надпісаў, апрача гэтае аднае цыфры* **16**. Таксама павінна быць *чыстая* — незапісаная і незадрукованая—*адваротная старана картачкі.*

Канвэрт з уложанай у яго картачкай выбаршчык падае *старшыні* абводавай камісіі. Апошні *на вачах выбаршчыка, не заглядаючы ў сярэдзіну канвэрту*, кідае гэны канвэрт з картачкай у скрынку для галасоў.

Ідучы на выбары, трэба мець пры сабе *пашпарт, легітымацыю, ці іншую паперыну, якая сьцьвярджае тажсамасьць асобы выбаршчыка*, каб у прыпадку недаразуменьня давясьці, што ты—гэта ты.

Найлепш *ісьці разам усей вёскай*, з сваім солтысам, сябрамі гміннае рады, войтам, ці пісарам, — каб у прыпадку недаразуменьня ці адсутнасьці дакумэнтаў *тажсамасьць асобы выбаршчыка маглі пацьвярдзіць двое сьведкаў*, вядомых каму-колечы спаміж сябраў абводавае камісіі (арт. 75, пунк 2 выбарнае ордынацыі).

Калі чужыя агітатары будуць пытацца, які у вас нумер,— *ня вымайце з кішані і не паказвайце*, каб ня вырвалі і не замянілі другім нумэрам.

*Беларускія агітатары будуць раздаваць нумэры 16* недалёка ад месца галасаваньня, але не бліжэй за 100 мэтраў *(*50 сажнёў).

Памятайце, што *галаваць маюць права і мужчыны, і жанкі*,—дык няхай-жа нашы жанкі не сядзяць у хаце, а хай усе разам з мужыкамі йдуць на выбары!

## Марш выбаршчыкаў.

(На матыў: „Ад веку мы спалі“)

За родную мову, зямлю і асьвету
Паўстанем аднэй грамадой.
Дакажам узростам сьвядомасьці сьвету,
Што маем і мы голас свой.

Даволі народ нацярпеўся прымусу,
Пазбыцца няволі ўжо час.
Хай высока ўстанець імя Беларуса
Між розных народаў і рас!

З шаснаццатым номяром к урне, наперад!
Ня трэба чужых нам багоў!
Адзіным мы фронтам усе дружна наперад!
І выбярам родных паслоў.

З.

Мужчыны і кабеты, пільнуйцеся каб у кожнага з вас была картачка з **№ 16**, якую вы павінны ўкінуць у ўрну (скрынку) 5 лістапада. Хворых і старых трэба звазіць, каб і яны, галасуючы за сьпісак **№ 16**, споўнілі свой абавязак перад Бацькаўшчынай.

„Нам могуць сказаць, што ў новую Кансысторыю увайшлі двое беларусаў, але на гэта мы адказываем, што гэтыя беларусы пашлі туды па сваей волі і ні ад якіх беларускіх устаноў на гэта паўнамочча ня мелі“.

Рэдакцыя даведалася аб гэтай устаўцы толькі пасьля выхаду ў сьвет № 29 „Белар. Звона“ і з гэтае прычыны ня мела магчымасьці перашкодзіць такой зьмене, ад якое можна атрымаць уражэньне, быццам вострыя словы абурэньня мы хацелі скіраваць ня проці няслушных закідаў беларусам, робленых нашымі ворагамі з расейскага лагеру, а проці тых беларускіх дзеячаў, што ўвайшлі ў склад новае Кансысторыі.

Выясьняючы тут гэтае прыкрае здарэньне, мы адзначаем, што і самы зьмест устаўкі, папаўшыя проці волі рэдакцыі, не зусім адпавядае істоце справы і ўжо дзеля гэтага яна ніяк не магла-бы быць сьвядома надрукавана ў нашай газэце.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

### З Навагрудчыны.

23 кастрычніка зьявіўся да Беларускага Павятовага Выбарнага Камітэту селянін вёскі Бронік Гарадзенскай гміны Кушаль Александар і заявіў, што да яго зьвярнуўся з к-ту „Zjednoczenia Kresowego №22 Вольскі з аколіцы Русілоўкі і кажа: „Мы табе дадзім 15.000 марак і добрую пасаду, толькі разнасі нашыя газэты“. Але А. Кушаль з агідаў адказаўся, бо не захацеў быць здраднікам свайго народу і панскім наймітам, і як працаваў так і працуе бяз грошы ў карысьць свайго сьпіску № 16.

Ка-цкі.

У мяст. Стоўцах адбыўся мітынг, на якім пробаваў выступаць авэнтурнік ген. Балаховіч. Выступаў з прамоваў трымаючы рушніцу на гатове, відаць баіцца сялянскіх атос. Але ня даўга ён гаварыў, бо падняўся такі крык і шум пратэсту, што генерал пасьпяшыў схавацца. Аратараў за № 16 віталі усе горача.

Альшук.

### Паліцыянт душагуб.

Праз вёску Запольле, Астроўскай гм., Баранавіцкага пав. ехаў ночцы камэндант паліцыі Астроўскай гміны і, ея сустрэўшы вярты, вызваў селяніна Івана Кіцуна і пачаў яго біць. Біў Кіцуна да тых часоў пакуль з таго не пашла кроў і ён зваліўся без памяці. Праз нядзелю Кіцун памёр. Паліцыянт абецаўся паставіць памятнік за 10000 м. для сваей ахвяры, але гэта абецанкай асталося. Быў і суд, але рука руку мые і дзела асталося без пасьледзтва.

Ю. Бур.

### Кабеты схамянуліся.

У м. Міры, Навагрудзкага пав. на мітынгу выступаў няўдалы вызваленец Гэльман. Процiў яго з вострай крытыкай выступіла кабеціна з вёскі Сімакава Раманейка і зразу заваявала прыхільнасьць усіх сабраўшыхся; пасьля ўзлесшы на воз, крыкнула: „Браточкі, галасуйце толькі за сьпісак № 16!“ „Хай жывець Беларусь!“ Кліч гэты падхапілі ўсе присутныя, доўга яго паўтараючы.

Вэлвэлэ.

### Вёска Ганковічы, Валожын. пав.

20 кастрычніка ў нашай вёсцы адбыўся мітынг. Пасьля гарачых прамоў беларускіх аратараў Аўсаніка і Канапелькі народ не пажадаў слухаць іншых і дружна выказаў згоду галасаваць за сьпісак № 16, а пасьля ўсе запялі: „Ад веку мы спалі“.

М. Азерскі.

### З Бельшчыны.

У м. Клешчалі 23 кастрычніка адбыўся вялікі мітынг. Народу было шмат. Выступалі аратары ад розных партыяў, але народ ўсё чакаў сваіх, беларусаў, бо хадзілі чуткі, што прыехалі на мітынг. Урэшце выступілі нашыя аратары гр. Кахановіч і Вішэнка. Пасьля іх прамоў народ бурна стаў вітаць прадстаўнікоў сьпіска № 16, а як сталі раздаваць беларускую літэратуру, дык з боем і з плачам дабіваліся, каб дастаць. Нават ворагам прышлося праканацца, што жывець і магутнее Беларусь!

А. Рошчэнка.

### З Дзісьненшчыны.

Да нас у Дзісьненшчыну налетэлася гібель розных брахуноў. Закідаюць адозвамі, газэтамі, пьянствуюць, абецуюць залатыя горы, кідаюцца на гідкія ашуканствы, як прыкладам, што 16 номяра ужо няма, бо далучыўся да 22 і т. п. Робюць і пагрозы: наклеіваюць картачкі на варотах больш энергічных беларусаў з гэткімі надпісамі: „аткажыся — грошы, а калі не — куля“. Што да паліцыі і іншых урадоўцаў дык няма чаго і казаць, яны на кожным кроку і заўсёгды стараюцца нагнаць страх за беларускую работу, абецуючы у нагароду вастрогі, розгі і іншыя дастойныя іх кары. Уся гэтая х ўра завіхаецца каля нашага народу, каб яго ачмуціць і зьвясьці з роднага шляху. Цэлымі пудамі кідаецца літэратура, ня менш мусіць і марачак расходзіцца.

Процiў усяго гэтаго выступіць дзе-ня дзе наш аратар прышоўшы пехтурой з літэратурай за плечамі, бо ня маем мы ані самакатаў, ані грошы, каб утрымаць агітатараў. І усёткі, не зважаючы на гэта, наш селянін дужа тонка разьбіраец ца ў усім гэтым і знае дзе яго ворагі і куды яму ісьці. Абмінуўшы усіх краснабаеў ён горніцца да свайго роднага сьпіска № 16 і верыць толькі ў яго.

П. М.

### Розумам дайшоў.

„Ух, бы медзьвядзя асіліў!
Бы гару сапхнуў з дарогі.
Чуеш жоначка, Марыля,
Сьцёр я чорту злому рогі:
Каб быць вольным беларусам,
Прынясьлі карысьць для краю,
Скінуць зьдзекі і прымусы
За шаснаццаць кінуць раю“.
— Нашоў дзіва, кажа жонка,
Без цябе даўно я знаю!
Мне аб тым сказала Пронка.
Нават номяр я ўжо маю.
„Эх вы бабы недарады!
А калі вам вораг скажа
На пагібель, дзеля здрады,
Дык вы згодзіцесь ураз-жа?
Не, цяпёркі, так ня можна,—
Шмат ёсьць хвальшу, ашуканства,
Трэба быць нам асьцярожна,
Каб ня ўскочыць у падданства.
Трэба сэрцам чутка чуці
І душой ўсё наскрозь бачыць.
Трэба розум зварухнуці,
Разважаць, пытаць, тлумачыць.
За шаснаццаць голас даці
Гэта мала, то ня наўда,—
За яго трэ мурам стаці,
Бо ён наша доля, праўда!

Сучасны

## ХРОНІКА.

Беларуская вечарына. У чацьвер 2 лістапада адбудзецца беларуская вечарына ў залі Беларускай гімназіі. М. Гарэцкі прачытае лекцыю па тэму: Дунін-Марцінкевіч. Пастаўлена будзе камэдыя: Цётка нажкодзіла. Пасьля прадстаўленьня танцы. Пачатак а 6 г. в.

Справаздача з вечарыны, ладжанай 22-х. Вырyчана ад прадажы білетаў, з буфэту і вешалкі 113.345 м. Выдаткі 37.400 м.— асталося даходу 75,945 м.



Рэдактар-Выдавец Ф. АЛЯХНОВІЧ. Друкарня „ДРУК“ Субач, 2.